**Паола Вагнэр**

# Тата, а дзе жыве Бог?

### 17. ТАТА, ЯК ХЛЕБ МОЖА СТАЦЦА ЦЕЛАМ ХРЫСТОВЫМ?

Людзі, якія любяць адзін аднаго, хочуць быць разам і ня хочуць расставацца. Калі ж Ісус сказаў сваім апосталам: “Адыходжу да Айца і ўжо мяне ня ўбачыце”, апосталы вельмі засмуціліся, што застануцца без свайго Госпада, які ім так патрэбны. Ісус ведаў таксама, што ня можа пакінуць апосталаў, аднак Ён ведаў, што павінен выканаць сваё пасланьне і прыняць сьмерць на крыжы, ведаў таксама, што на трэці дзень уваскрэсьне з мёртвых і ўзыйдзе да Божае славы. Для Госпада нашага Ісуса Хрыста няма нічога немагчымага, і таму Ўваскрослы і Праслаўлены Ісус адначасова ёсьць у Божай славе, а таксама прысутны са сваімі вучнямі тут, у сьвеце.

### 18. А ЯК ІСУС ГЭТА ЗРАБІЎ?

Калі перад тым, як быць укрыжаваным, Ісус вячэраў у апошні раз са сваімі апосталамі, Ён узяў хлеб, ламаў і даваў сваім вучням, кажучы: “Гэта ёсьць цела маё”. Гэтак перамяніў хлеб. Праслаўленае Цела Ісуса, якое ня бачна людскім вачам, сталася бачным Сьвятым Хлебам, Сьвятым Целам Хрыстовым. Пасьля Ісус узяў келіх з віном, кажучы: “Гэта ёсьць кроў мая”. Так перамяніў віно. У час гэтай Апошняй Вячэры апосталы атрымалі моц перамяняць хлеб і віно ў Цела і Кроў Праслаўленага Хрыста. І гэтую моц перадалі сваім наступнікам — біскупам і сьвятарам.

Дык вось, калі сьвятар падчас Сьвятой Літургіі паўтарае словы Ісуса Хрыста, якія Ён вымавіў падчас Апошняй Вячэры, хлеб і віно перамяняюцца ў Цела і Кроў Хрыста. ***А мы верым, што ў гэтым Сьвятым Хлебе і Сьвятым Віне прысутны Ўваскрослы і Праслаўлены Госпад наш Ісус Хрыстос.*** Гэта вялікая таямніца, якую мы да канца не разумеем. Аднак, уся Царква верыць словам Ісуса, якія Ён вымавіў на Апошняй Вячэры. Верым, што ў сьвятасьці Цела і Крыві Хрыстовых сустракаемся з сапраўдным жывым Ісусам.

### 19. ТАТА, ДЛЯ ЧАГО ЎЛАСНА ЁСЬЦЬ ЦАРКВА?

Некаторыя людзі хацелі б, каб Царква была вялікім універмагам, поўным смачных рэчаў. І ў гэтым універмагу хацелі б выбраць сабе тое, што найбольш даспадобы. Але як толькі знойдуць нешта не такое салодкае, як хацелася б, гэта ўжо ім не падабаецца. Іншым здаецца, што маральная навука Царквы ім зашмат забараняе, і таму шукаюць нешта лягчэйшае і менш складанае.

Царкве ўжо 2000 гадоў, і ўжо 2000 гадоў яна мае тое самае заданьне — прыводзіць людзей да Ісуса Хрыста. Гэтае заданьне Царква мае і ў сёньняшнія часы. Сёньня, вядома, усюды вакол нас ёсьць шмат розных прапановаў і магчымасьцяў, як жыць і па якой дарозе ісьці па шчасьце. І дарога, якую прапаноўвае Царква, трэба прызнаць, ня ёсьць найлягчэйшая і беспраблемная. Яна ня можа быць такой, таму што Ісус Хрыстос ніколі не абяцаў сваім вучням дарогу шырокую і беспраблемную. Ён вёў і сёньня вядзе сваіх вучняў па дарозе вузкай і цярністай, але толькі Хрыстовая дарога скіраваная да Валадарства Божага.

Сьвет без Царквы быў бы як вялікае падарожжа, у якім чалавек ідзе і ня ведае куды. Царква, аднак, паказвае нам дарогу, па якой пойдзем з Ісусам; і я веру, што ў канцы мы будзем шчасьлівыя.

*(Працяг будзе, пачатак у № 16-23)*

*Пераклаў з чэскай*
**а. Андрэй Абламейка**

# Апякун Беларусі

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | | |
| | 2 | | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | | | |
| | 4 | | | | | | | | |
| | | 5 | | | | | | | |
| | 6 | | | | | | | | |

*Запоўні правільнымі адказамі гарызантальныя радкі і атрымаеш па вертыкалі ў чырвоным слупку імя апекуна Беларусі.*

1. Рака, на якой Ісус прыняў хрост.
2. Хрысьціянская супольнасьць, якая штогод ладзіць экуменічныя спатканьні для моладзі.
3. Назва малітвы на вяровіцы.
4. Частка храму.
5. Адзін з апосталаў.
6. Месца, дзе маліліся першыя хрысьціяне.

Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 3 (26), 2000*

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдавец:** Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** сьвятар Ігар Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 11 верасьня 2000 году, а 22-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 836), вул.Мініна, 23-106, г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,0 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1750 асобнікаў.

*Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ “Абсалютбанк”, МФО 150501242*